* * *

Зашчымела слова, зашчымела...
А вакол — высокі лістапад.
Ці змагло б ты, сэрца,
каб прымела,
Ды на горла слову наступаць?

А сягоння так празрыста ў свеце,
Як на дзень сяўбы, ці кірмаша,
Што насеннем, кінутым на вецер,
Адляцела ў свет твая душа.

Стала пуста ў гэтым гнездаванні.
Не шалохнуць думак касачы,
Іх стаміла доўгае маўчанне
І закалыхала на спачын.

Зашчымела слова...
Можа, досыць?
Для ныцця — рашуча —
не пара.
А на вокнах любай маладосці
Развінае перыйкі зара.

ДЗЕРАЗА

Астабрыдла тло драбязы.
Прыгарнуцца б, як птушцы да гаю,
Да чысцюткай слязы-дзеразы,
Што зялёным агнём дагарае.

Тое самай,
што спеўна вісіць
На ласкава пабеленых сценах,
Калі радасць, і стан, і вусы
Разлагодзіць у свята на сцэне.

Тое самай,
што свеціць з вянца,
Хоць іржавым аблытана мохам.
Праз прабітую каску байца...
У лясах іх балюча замнога.

Тое самай,
што (шапкі далоў!)
Мы нясём па апошняй дарозе,
Пра жыццё калі кажам: было,
Калі цяжка і нам і бярозам.

Абвівай жа мяне, дзераза,
Спавіваючы думкі і цела,
Каб душа, як уранку раса,
Трапятала,
жыла
і ляцела.

І падумаць сабе — на друзах
(Прыпыніся на міг, дарагая)
Напамінак быцця —
дзераза
Неабдымным агнём дагарае.

* * *

Ля спакойнай травы і вады
Захлынаецца радасць блакітам.
І цудоўна,
што ты — малады,
І да старасці сцежка не біта.

І цяпер на пявучых лугах
І твая сярод кос юнакуе.
І зязюля не хоча ілгаць —
І на поўнае горла кукуе.

Небывалыя весткі і дні
Паўстаюць на гаючым парозе,
Іх вясёлыя твары відны
На зямной і высокай дарозе.

Правады у разгоне звіняць
Над пшаніцай,
настроем
і бытам.
І табе надараецца ўзняць
Чалавечага шчасця набытак.

І табе наканована стаць
Звездаром над вільготнаю зоркай,
Каб з душы вырывалася страсць,
Як трава з несмяротных узгоркаў,

Ды табе наканована знаць
Пра няшчасці,
што ціша не чуе...
А зязюля не хоча ілгаць —
І на поўнае горла кукуе...

## ЧАС

Глухія сцежкі
чорных людзей.
Яны зараслі барамі.

Пуцявіны першых каханых
адцвілі
лёгкімі дзьмухаўцамі.

Барвовыя сляды барыкад
сцерла
падэшва кандара.

Бярозы танкавых гусеніц
параслі
бур'янамі і жытам…

Дымкі ў крынічным небе
змыла
слязьмі дажджу…

І ўсё ж сляды застаюцца!

БАЦЬКУ

Год нараджэння (1947),
А мне ў гэтых дужках цесна!
І, непрытомны, амаль адпачываю
На беразе успамінаў…
На гарачым пяску…

Такі пясок быў і тады
Пад Оўручам.
Трашчаў на сціснутых скіўіцах
У мяне і ў бацькі…

Была бамбёжка цяжкай,
Як неба,
Яно падала нам на спіны
Пад Оўручам!
На бацькаву і маю…

Мы ішлі і ішлі,
Каб заціснуць у сябра пад сэрцам
рваную рану
У Карпатах крывавых…
Прынесці пад родныя вербы

У даланях апаленых
Апошнія словы яго…
Разам з бацькам…

Мы выжылі і пад Оўручам і ў Карпатах...
Нам трэба было сустрэцца…

* * *

Зброя не памірае.
У руках…
У акопах…
Пад лісцем травы…
Зброя жыве!

Яна глядзіць на аблокі
Чорнай зрэнкай
Ствала.
Засыпае ёй вочы
Жвір траншэі
Забытай.

Б’ецца ў капсуль патрона
Зялёны
Прамень.

Толькі зброя маўчыць…

Так і трэба.

РАБОЧАЕ СЛОВА

Як пад важкаю кладдзю цаглін
Напінаюцца сілаю тросы,
Камунары Арэсы з імглы
Нас вітаюць, як роўных па ўзросту.

Нам запомніць і колер, і пах,
І характар магутнай будоўлі.
Не знянацку на нашых руках
Мазалі ад уласнай гадоўлі.

Гэта жарты табе,
Угары,
(не чакаць жа ім з мора пагоды)
Могуць з небам загаварыць
І дзяўчаты з высокай нагоды.

Шчасце труднага хлеба і дня
Нам знаёма
і блізка,
і родна.
Рыштаванняў пяе вышыня.
Згодна планаў і радасці згодна.

Глянь, дзяржава, на сына —
мяне —
Сіла,
Моц,
І запасу хапае на потым.
Часу груз на спіне.
Асалода работы.

ПОЛЕ

Векапомнае поле.

Папар.
Серабраная постаць бярозы.
Наплывае паволі на твар
Палявы неразгаданы роздым.
Мы ў кастрычніка госці цяпер,

Не гаворым маёваю мовай.
Нам жа восень дае напавер
Ліст цяжкі і спакойнае слова.
Нам прыняць залатыя дары.

Нам шчымлівая радасць знаёма.
Як жывецца, мой сябра стары,
На заробку далёка ад дому?
Дзе ўзрастае салодкі палын

У душы, што пра зерне не дбае,
У душы ці грукочуць палі,
Палыхаючы зоркі камбайнаў?
Мы стаім на халоднай зямлі,

Бо цяпло перададзена лету.

Дык адкуль жа вы, людзі, узялі,
Што вясёлая песенька спета?

Дачакаемся свята снягоў,
Кавалькады вясёлых мяцеліц,
Каб памацаць лядок пад нагой,
Па каторым яны наляцелі,

Каб празрыстую згадку пра час
Пры сабе захаваць пастарацца,
Каб дзялянку сваю пачаць
За звычайнай сялянскаю працай.

...А пакуль што — кастрычнік.
Смуга.
Руні выпадзе белая доля:
Снезе,
Хутка табе замільгаць
Матыльком векапомнага поля.

СЕЙБІТ

Шчасце поля, і росквіт сяла,
І насенне выдатнага года.
У насенні тым сіла была,
З чалавекам найпоўная згода.

Дзе зіхоткія ходзяць гракі
І распарана пахнуць барозны,
Забывае на свет і грахі
Твой, сяўбой запалонены, розум.

У  мазуце,
траве  і  расе,
у  палёце,
разбегу,
вярчэнні
Аддаляецца час пакрысе,
Набліжаецца одум вячэрні.

І сядзіш за прыдбаным сталом.
Тут сады і падзеі ў закутку.
Ты жытнёвым звычайным сцяблом
Праз падэшву да поля прыкуты.

І павольная стома рукі.
На платах засцярога агрэсту.
Забірае туман ад ракі
Да прысадаў знаёмых пагрэцца.

Чорнай нівы размераны дых.
І глыбокая зорка у высі,
І якраз над магіламі тых,
Чые
наступнікі
не звяліся.

* * *

*Аляксандру Жамойціну,*
*Герою Сацыялістычнай Працы,*
*патомнаму хлебаробу*

Незнаёмыя шолахі траў.
Неспакойнае думак дыханне.
Гул, напэўна, вось так вырастаў,
Крадучыся па стэпе да хана.

Ты цыганскаму сонцу павер
І спакою істотай даверся,
Адгадаеш тады па траве,
Што пад ёй
і што ў небе наверсе.

І тады адаб'ецца на слых
Перапёлчынай ночы зацішак,
Дзе на сцежках нядаўніх тваіх
Жыта ўдзяку калыша.

## БАЛАДА ЦІШЫНІ

Роўнаю хвілінай памаўчым,
Хай яна настрою паспрыяе.
Не шанцуе песні, бо зачын
Толькі легкадумных акрыляе.

На размераным зыходзе дня
У крыніц і гаю у даведках
Зразумееш:
толькі цішыня
На абодвух светах будзе сведкай.

Сведкай руху, позірку і сну,
голасу,
спакою
і імгнення...
Праганяем воблакі і сум,
Толькі ад яе няма збавення.

Ды нашто збаўляцца цішыні?
Колас-колас просіцца да долу,
На яго ціхуткім карані
Калыхаецца і наша доля.

## ЖНІВЕНЬСКАЙ НОЧЧУ

*Бо мы твае, зямелька, людзі...*
*Якуб Колас*

Перасечана сувязь з раллёй,
Размагнічана цяга зямная?
А чаму за шалёным рулём
Пах зямлі так дыханне займае?

І чаму ты пачуеш здаля,
Як спявае праменне саломы?
І захочацца ўстаць ад руля
І капою зрабіцца самому.

А для жнівеньскай ночы запас
Зор і сну не такі ўжо вялікі.
Элеватар адзін не пагас,
Толькі думак у галаў паклікаў.

Цішыня палыну і машын.
Спачывае дарога ад пылу.
Аднаму з падарожных мужчын
Гэтай ночы да скону хапіла.

* * *

*Генадзю Дзмітрыеву*

На святло яравое
Шлях праз лета спакусны.
І гарчаць над травою
І павевы,
і вусны.

На узгор'ях Варончы
Думкі ўверх выраслі:
Іх інстынкт абарончы —
З зазямленнем растанне.

Не наспех вечарэла
І лісцём шапацела,
Недзе зорка гарэла
І спаткацца хацела.

Наддарожная зорка
Пра адлегласць згадала,
Падуладная зроку,
У душу западала.

А вока прагнае ў купца!
Еўропа ў скрынкі заглядала,
Тавар з прыцемкам выбірала —
Калі што вартае — то цап!

Падвальчык пані Валабрынськай
Прымусіць пець — не гараваць,
Пакуль кішэнь у стане брынькаць
І ў стане ўзняцца галава.

І тлустай крамніцы даходна.
Ой, хітравокая карчма!
Каго выкідвала старчма,
Каго — выводзіла лагодна…

Ды торг да хмельнага канца,
І цыганы прапалі недзе.
І пад дугой вясёлкі едзе
Дастатак святам з-пад вянца.

Сядзіць мінулае на медзі,
Няўтульна кіпцікам арла:
То не ў прытулку гандляра,
Дзе жонка сквапная, як ведзьма.

І мы не хвалімся дарэмна:
Для нас і неба і нарог.
І хоць жа быў гандляр нядрэмным,
Мужык урэшце перамог.

## РОСЬ

Дзесьці за Ваўкавыскам
Сярод пераспелых рос,
Як мара, віецца Рось.
І час для вандровак выспеў.

Ад крутагор'яў Расіі
Хмара сюды плыла.
Рось курганы сівыя
Лозамі перапляла.

Ірвала маланак ніці
Рукамі свайго ляска.
Счарнела даўно луска
На лодках,
Што ўпалі ніцма.

Стомленыя буслікі
Дацягвалі ад пірамід,
Каб у затоках ціхіх
Перыйкі перамыць.

## ДЗЯРЭЧЫН

*Пятру Марціноўскаму, настаўніку*

А варта азірнуцца —
Прыжмурацца вятры,
Зямляк касу вастрыў,
Каб з росамі звінуцца.

І тут даўней друкарню
Збіралі друкары.
І літары з кары
Кракталі пад рукамі.

Прытулак быў тэатру.
Прыгонны ён ці не?
А пыл вісеў над трактам,
Бізун жа —
на сцяне.

Ды ў думках перапад,
І, пэўна, што дарэчы.
Садоў спакойны пад
У слове пра Дзярэчын.

Дзярэчыне, Дзярэчын —
Звычайны кут і гук.
Як голуб на парэнчы,
Вуркоча дбайны брук.

І гонту сонца смоліць.
Над абеліскам — сінь.
Глядзіць з-пад школьнай столі
Купала прад усім.

НЁМАНСКАЯ МАТОРКА

На кіламетры якім, чыім,
Услухайся,
Як узнікае
Маторка ўдалечыні
За дрэвамі Друскінінкая.

Далёкі ў яе ваяж.
Забудзь пра свой нешанцунак,
Спагады аддай багаж
Вандроўніцы ў падарунак.

Нясмелая хваля, ты,
Кланяйся гальцы ніцма.
Гаворыць з сабой між тым
Маторчыха-працаўніца.

У змоўніцкіх берагоў
Зблізіцца ёсць пражэкты,
Задуме шкодзіць благой
Адважны, як меч, пражэктар.

Маторка заціхла дзесь.
Аглухла наваколле,

Не ведае, дзе падзець
Цемру, што ў вока коле.

Прытулак для лодкі ёсць,
Дзе у лагодзе хвалі
Забылі у пене злосць
І ў вірах схавалі.

Пасецца агню язык
У стойбішчы камарыным.
Прасіцца камар адвык
У вогненную адрыну.

Спачынак нядоўгім стаў.
Манаткі наноў сабраны,
І, выгнуўшы рыбай стан,
Маторцы —
У шлях старанны.

На кіламетры якім, чыім,
Услухайся,
як спяшае
Маторка з далечыні
З-за дрэў Друскінінкая.

І з невядомых пор
Даведацца ёсць жаданне:
Ад Балтыкі ці да зор
Маторчына буркаванне?

* * *

Непаўторныя роспісы дня
Паўстаюць,
наплываюць радамі.
Там высокая фарба відна
Над травой,
што ад пылу рудая.

Там, на стропах праменнай вясны,
Жаўрукі і цябе разгайдалі.
Разгадалі,
што сцежак ты сын
І, што неба ты сын — разгадалі.

І чаму гэта выпала мне
На стагоддзя дакладным адцінку
Затрымаць у вачах і наўме
Аблачынку з блішчастага цынку.

Назіраць без дыхання і слёз
Безнадзейныя пёраў палёты
Над краінай блакіту і лоз,
Дзе разгорнуты рэчак палотны.

Бачыць тое,
як колер жыве,
Поўніць шчасцем і вочы і скарбы.
Белы воблак на галаве.
Гэта сама высокія фарбы.

* * *

Свяжак халоднае чаромхі.
Зялёны дом, і белы дах,
І дум павольныя чароды —
Яшчэ нязнаная бяда.

І пахне дзеду баразна.
І да зімы
яшчэ далёка,
Калі панура далакопам
Ісці з ламамі
ў беразняк.

...Нагрэюць горкае вады,
Сплятуць
гаротнік
і грымотнік...
У небе першыя грымоты
Дажджоў напялі павады,

І дзед, дажыўшы у дастатку,
У сузор'і цёплых ручанят,
Не ўчуе клёкат ручая,
Не ўчуе ранішняга статку.

* * *

Няспешнаю стала вада
Пад латамі буйнага лісця.
Забудзеш пра час — не бяда,
Толькі б гукі яго засталіся.

А яны неўспадзеўкі растуць,
Як трава у зялёным салюце,
І здаецца, чутно за вярсту,
Што з душою тваёю сальюцца.

І ўплятаецца ў лісце і слых
Незамераны гук самалёта,
Праплываюць шырока буслы —
Мерацць неба усходзяць з балота.

Плёхне хваля.
Замокне вясло.
Падабрэлае сонца над бродам.
І куды гэта нас завяло?
І за што гэта мне ўзнагарода?

Каб спрыяць і світанню, і дню,
Не галёкай,

Замры на імгненне.
Лодку гойдае возера дум,
Маладых навальніц пакаленне.

Каб спрыяць і світанню, і дню,
Трэба думаць пра гэта трывала.
Нагінацца глыбокаму дну
І ад хмаркі не адарвацца.

* * *

Пад свіст крыла трывожнай думкі,
Як у засадзе, не сапні.
Табе адлічаныя дні
Паўстануць, нібы віядукі.

Ды пад спалоханым штандарам
Спагады лёсу не пытай,
А кроплі горкага пітва
Лічы, як лічацца удары.

Ды стань, як ставяцца на вагі
Душы,
          над студняй векавой,
Каб варухнулася адвага
Над непакрытай галавой,
І каб пыталі бедалагі:
Скажы, зямляча, што з табой?

Не слухай словаў небарачых,
Калі захочацца запець,
І хай не думае, што страчан
І ты, задыханая медзь.

Кладзі на плечы лістапада
Турботы,
воблакі,
радкі.
Уладна просіцца рукі
У садзе мокрая лапата.

І будуць дні, як дабрадзеі,
Цябе, як хлопца, гадаваць,
Пакінуць спорую надзею,
А тую варта шанаваць.

* * *

Высокім травам даспяваць
Прыходзілася позна.
А нам спяваць, не даспяваць —
На песні ў нас завозна.

Мы сведкі дзіўнае пары.
А тая не хадзіла,
Каб палячылі дактары
Чысцюткія на дзіва.

Мы мелі шчасце будаваць,
смяяцца,
жыць
і верыць.
Не мелі часу бедаваць,
Не ўмелі крыўдзіць звера.

І нам на свеце, добры друг,
Вядзецца гэткім ладам:
У моцным целе юны дух,
Не дыхаем на ладан!

* * *

За дымкамі і вербам цяплей
На халоднай дарозе планеты.
А падумаць,
Ці знойдзеш цяпер
Хоць адзін тут куток не апеты?

Сам жа горача гэтак хацеў
Вось на гэтым адрэзку спыніцца,
Хоць не стануць шляхі карацей,
Параднеюць яны і крыніцы.

Вербы тояць у душах спакой
І стаяць вартавымі прасторы.
Хай счарсцвее кара пад рукой.
Заспяшаецца сэрца няскора.

А наперадзе свішчуць шляхі,
Разындычыла раніца волле.
І стаіш ты да свету глухі:
Каташкі выпускаеш на волю.

* * *

Раптам дождж загрукаў у радок,
Дзе зацiхла стома i будоўля.
Доля ў служках у цябе, браток,
Цi ты сам за парабка у долi?

Ходзiш па краiне напрасцяк,
Атрасаеш яблынi i словы,
Нанач ты кладзешся ля трысця,
Як спачнуць i лямпа i аловак.

Мне, напэўна, лепей, чым каму,
Знаць тваю вадроўную натуру.
Мы з табой ступалi на карму,
Калi Прыпяць пакiдала Тураў.

Ты заўсёды роздуму спрыяў
У купэ,
Ля мiнскага партала,
Хоць i часу за разбегам спраў
Паблукаць з табою не хапала.

Нас цягнула нiткаю адной
Ля камення, воблакаў Каўказа.

Сэрцу стукаць
і вачам відно —
Значыць, радасць будзе з намі разам.

У платанаў мокрыя ствалы.
У гарах — гарласта вадаспадам.
Тут не будзеш плесці пасталы —
Слова стане забаўкай і звадай.

Раптам дождж загрукаў у радок.
Ён уночы грукацець ахвочы.
Ціхнецца пяро перад бядой,
Што нясецца ў ноч насупраць ночы.

* * *

І як рэйды, спяшаюцца дні...
Застаюцца за доўгай завесай.
Белым садам, як лёдам, дыхні,
Вырываючы душу з завесаў.

Дзірванее у памяці час,
Ды разворваеш тыя карэнні —
Успамінаў цвіце алыча,
І карэнне глыбей сутарэння.

На узгоркі расстання і дум
Не спяшае разгневаны быльнік,
Бо развагі цяжкую руду
Дабрата ўзбагаціць не забыла.

І злавесны, як вестка, крумкач
Не пахваліцца з небнае столі,
Хоць яму у нядолі заплач
Над жытамі затопленай доляй.

На заржаўленых гільзах палёў
Паўстаюць узахлёб ураджаі,

Нават самы бліскучы палёт
Толькі польнай зямлёй зацвярджаюць.

Шырыня,
Перапады…
Трава
Пад купчастаю хусткаю кроны.
Як ад думкі раптоўнай стрываць,
Што патрэбна жыццю абарона?

БЕЛАВЕЖЫ

Дзікай ягады буйны шал
Палымнее сваім зыходам,
Не агоркне нікога жаль,
Толькі колеру трохі шкода.
Ля таемнай стаім вады.
Ці азёры з мінулым чорным,
Што туману кудлаты дым
Паўстае, як з нябыту ўчора?
Над затокай стаіць чарот
Засцярогай халодных сцежак,
І чароту глыбокі род,
Як і мы, да зямлі належыць.
А прыдасца сустрэць зубра,
Зразумела, пагляне крыва,
І да роздуму як дабраць:
А ці друг ён табе, ці прывід?
Запаведна усцяж. Аднак
Ля прасмоленага лясніцтва
Ты прыпомніш:
Яна — адна,
Каб запознена пакланіцца.

* * *

Возера Свіцязь гадоў не згадае.
Памяць на радасць не галадае.
Памяць на смутак не памірае,
Як ліпа старая...

Стукае возера ў бераг,
Просіцца, каб адчынілі
Шыбіну лёду аберуч,
Толькі рукамі чыімі?

Просіцца возера ў неба
Зорамі высцеліць ложа.
У неба не выпрасіш хлеба,
А зормі яно дапаможа.

Схованы далечы бору
За смуглай завесай чабору.
У возеры Свіцязь на зоры займае.
Возера Свіцязь —
Вада маладая.

* * *

На небе след у два канцы,
Разложысты і мяккі.
Вачэй блішчасты антрацыт
На фоне хатніх макаў.

І што ў дзяўчыны за намер:
У рукі не давацца?
Ці ласка спелая наўме,
Калі якраз пад дваццаць?

Аконнай шыбе засціць сад.
Варушыць фортку ветрык.
Грудзей салодкі перапад.
Няўжо ім брак паветра?

І парыванні, як ганцы,
Ім —
сцежкаю любою.
І свет ляжыць ва ўсе канцы
Разгорнуты любові.

## ДЗЯЎЧЫНА НАД АБРЫВАМ

І высока вынесліся рукі
Да спакою перыстых аблок.
І няма упэўненай зарукі,
Што дзяўчына ўсё ж — не матылёк.

І адлегласць робіцца мізэрнай
Да жадання,
слова,
пачуцця...
І стукоча, як на волю зерне,
Хваля сілы ў бераг забыцця.

Мокры дым з-пад берага віецца.
Таямніцай цешыцца рака.
Праз імгненне разбяжыцца вецер,
І смуга уздыме матылька.

## ЛЕТАПІСЕЦ

Бяросце ссохлай пакланіся,
Дзе моцных словаў канавязь.
А мог у келлі летапісец
Айчыне лёс наканаваць?

Гарэла стоена лучына.
Над ёй маўчалі гарады,
І час з разбэрсанай ляйчынай
Ляцеў, як вогнішча, руды.

Нібы з жаданага захмар'я,
Схіляўся творца да радка
У краі, дзе Іван ды Мар'я
Глядзяць на поле з-за грудка.

А па дарозе пры бярозе
Ішла на сечу войска раць:
Хто пехатой, а хто — на возе,
Ды толькі разам паміраць.

Ірвала конніца папары,
Таптала ветры наўскапыт.

І слова стала ад удараў
Мацней кавальскае скабы.

Душа свяцілася ў манаху,
Нібыта ў прыцемку свяча.
Яго цяжкая апранаха
Якраз стагоддзю да пляча.

## СЛОВЫ

Садзіў жа ў покуць словы,
Дапамагаў, як мог,
Каб кожны іх бярог
І разумеў іх мову.

І, бачыш,— не ўбярог,
Нібы дзяцей настаўнік,
Няўжо так для дарог
І ім пара настала?

Ды ў слоў свая суполка,
Яна шырэй радка:
Ад поля перапёлкі —
Да хмар маладзіка.

І толькі змеціш ноччу:
У белай паласе —
Наводліў крэўны почырк
Па шыбе паласне.

## МІХАСЬ ВАСІЛЁК

А быў ён родам нездалёк —
Там Котра хвалю сцеле.
І жыў на свеце Васілёк,
Або — Міхась КАСЦЕВІЧ.

Жыццё, як бёрны, ён валок,
Акрузе ўзводзіў сцены.
Тужыў па свеце Васілёк,
Па пашпарту — Касцевіч.

Хадзілі чуткі і лісткі.
Шалела зброя ўлады.
Да слова шлях быў напрасткі:
Твой верш, яе — прыклады.

У звоне родных бальшакоў
Ля бацькавай Баброўні
Ён не сустрэў бальшавікоў
З букетамі на броні.

На волі вёскі і браты,
А тут — дратоў да скону.

І Васілёк парваў драты
Нямецкага палону.

Ён партызаніў,
галадаў,
араў,
пісаў адозвы...
Тапіла ў Нёмане вада
Варожыя абозы.

...Баброўня плавае ў садах.
І пах, і шлях залёны.
Была паэту ў гарадах
Радзіма не замглёнай.

Ён зведаў хмелю юны клёк,
Меў стог замест пасцелі.
Спяваў і плакаў Васілёк
Па прозвішчу Касцевіч.

А быў ён родам нездалёк,
Не вёў радком гавэнды.
Хадзіў па свеце Васілёк,
Хадзіла ўслед легенда.

ПАЭТ

Ураджэнец зямлі, мастак
У дрыготкім сваім берэце,
Ён прайшоў па такіх мастах
Дзе зара на ўзыход бярэцца.

З ястрабінаю прагай зрок.
З васільковай душой вяскоўца,
Ён жа даў быў сабе зарок —
Адчыняць на радзіме сонца.

Камсамолец,
юнак,
паштар,
Аратай і загадчык клуба.
Зазірала яму з-за зруба
Хутаранская руля ў твар.

Па акопах,
гразі, дратах
Не падэшвамі генерала
Ён прайшоў па такіх франтах,
Дзе трава, нібы лёс, згарала.

І адлегласць сівы вястун
Ад азёр да аблогі Марса
Адлічыў за вярстой вярсту,
Як слупы па дарозе маршаў.

Слова браў са святла бяроз,
Звону лёну,
Расы каля хаты.
Слова мае высокі лёс
Над прасторамі калыхацца.

ЧАКАННЕ СНЕГУ

Налета будзем зноў спяшаць
Залатвіць справы і паперы,
І будзе нас вітаць спярша
Чарот на возеры Панерня.

Налета будзем песні пець.
Дрыжаць дасвеццем каля лодкі,
Спяшацца, каб раней паспець,
Чым заіграе верхаводка.

Дажджу налета засвярбіць
Разбіць азёрнае люстэрка,
А на самоце што рабіць?
Адмерваць час уласнай меркай.

Жанкам налета лагаднець,
Шукаць у небе зорку Вегу.
Запозна пачынае днець.
...Чакаем снегу.

## МАЛЮНАК

А лёгенькі лядок
Рыхтуе сілу, пэўна.
І ранак лезе пеўнем
На шыбаў халадок.

Стаяць дымы і хаты.
Ідзе, як па лядку,
Маленькая да таты
Па першаму гадку.

## ВЯСЕЛЬНІКІ

Раптоўная за садам
Чырвоная засада —
Засада снегірова.
— Здаровы ўсе?
— Здаровы!
Размова не чакае,
Размова не за чаем.
Вясельнікі — за ельнік.
Ім весела і вельмі,
Дуга званок уздыме,
А ён у снежным дыме —
За свята на Радзіме.

ЗДЫМАЕМ ЦАЦКІ...

Гусцее ёлчына смала.
Цямнее вата.
Аднойчы ўсталі з-за стала —
Збылося свята.

Для падрахункаў час настаў.
А што зрабілі?
У сэрцах стаўся ледастаў? —
А мы ж любілі.

Для пераносу час прабіў
Мінулых вешак.
Для звону брам і арабін.
Для думкі лепшай.

Сівее ёлчына смала,
Як скронь у бацькі.
У свяце ёлка пабыла —
Здымаем цацкі.

Даверся зноў календарам
І мрой не ў скрусе.

І зноў усцешыць недарма
Сумёт абруса.

І стане гулка стракацець
Дарог арнамент.
Захочуць весела ляцець
Снягі у раме.

* * *

Не старайся думаць пра сябе,
Пастарайся думаць пра імгненне,
А яно у шыбіну скрабе,
Каб спытацца пра сваё найменне.

І яму не скажам неўпапад,
Што яно сягоння недарэчы,
Бо грукоча промняў вадапад,
І ў траве аблокі і надрэчча.

І спяшаюць набіраць разгон
Каласы,
Пачуцці,
Самалёты...
Ці згадаеш некалькі разоў
Гэты міг, як клетачку у сотах?

Толькі годзе захапляцца ўслых.
Рукі прагнуць,
Думкі не ў знямозе.
...У прастору адлятае міг,
Толькі пыл курыцца на дарозе.

ЗМЕСТ

**Голуб Ю.**
**Г 62 Векапомнае поле. Вершы. Мн., «Маст. літ.», 1976 г.**
64 с.

«Векапомнае поле» — трэцяя кніга паэта.
Наша радзінная зямля, якая нясе ў сабе балючую памяць пра барозны варожых танкавых гусеніц, а цяпер, абходжаная людскімі рукамі, дае чалавеку сілу і хлеб.
У зборнік уключаны вершы двух апошніх гадоў.

Бел 2

На белорусском языке

Юрий Владимирович Голуб

НЕЗАБЫВАЕМОЕ ПОЛЕ

Рэдактар Хв. М. Чэрня. Мастак М. Г. Лазавой. Мастацкі рэдактар М. Р. Казлоў. Тэхнічны рэдактар М. Ц. Папкова. Карэктар Л. Г. Законнікава.

АТ 21006. Здадзена ў набор 9/Х 1975 г. Падп. да друку 27/1 1976 г. Тыраж 5000 экз. Фармат 60Х90 $^{1}/_{32}$. Папера друк. № 1 Ум. друк. арк. 2. Ул.-выд. арк. 1,52. Зак. 790. Цана 16 кап.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта Савета Міністраў БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. Мінск, Савецкая, 19.

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі. Мінск, Ленінскі праспект, 79.